У 1997 годзе Барыс Звозскаў быў грамадзкім абаронцам на працэсе Паўла Шарамета, якога абвінавацілі ў незаконным пераходзе беларуска-літоўскай мяжы і далі два гады ўмоўна. Пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году Барыс Звозскаў як праваабаронца актыўна дапамагаў удзельнікам пратэстаў супроць фальшаваньня выбараў. Неўзабаве паўстала праблема недахопу добра падрыхтаваных абаронцаў правоў чалавека, і Барыс Звозскаў сканцэнтраваў уласныя намаганьні на гэтай справе — падрыхтоўцы праваабаронцаў. У тым ліку ён стаў першым прэзыдэнтам Беларускага дома правоў чалавека, які зарэгістраваны ў Вільні. У 2008 годзе Барыс Звозскаў стаў ляўрэатам прэміі «Праваабаронца году», якую арганізацыя «Праваабарончы альянс» прысуджае на падставе меркаваньня лепшых праваабаронцаў. Кіраўнік арганізацыі Людміла Гразнова гэтак патлумачыла такі выбар:


Праваабаронца Барыс Звозскаў

«Ён вельмі шмат рабіў для разьвіцьця праваабарончага руху. Быў арганізатарам шматлікіх сэмінараў у рэгіёнах, на якіх тлумачыў людзям, як абараняцца ад незаконных дзеяньняў прадстаўнікоў улады. Гэтыя ўрокі былі вельмі карысныя, мы мелі пасьля іх велізарны водгук. Ён вёў быццам такую нябачную працу, але вельмі актыўную і вельмі карысную».

Паводле калегаў-праваабаронцаў, ужо цяжка хворым Барыс Звозскаў да апошняга працаваў дзеля змаганьня за правы чалавека.

www.svaboda.org/content/article/24618085.html

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад: 299 асобнікаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»







Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 6 (чэрвень), 2012

# Мяжа



**Жыхары Брэста выступаюць за роспуск гарадскога савета дэпутатаў**

(старонка 10)

## ЗЬМЕСТ







палітычную барацьбу прыйшоў на хвалі перабудовы ў канцы 1980-х гадоў, а на пачатку 1990-х далучыўся да дэмакратычнага руху незалежнай Беларусі. Былы дэпутат Вярхоўнага Савету, сустаршыня былой Грамадзянскай партыі ў 1990-х гадах Васіль Шлындзікаў называе Барыса Звозскага «сапраўдным змагаром за лібэральныя каштоўнасьці», а ў чалавечым пляне падкрэсьлівае здольнасьць шчыра спачуваць і дапамагаць людзям:

«Ніколі не забуду: калі я трапіў у шпіталь, ён з жонкай прыехаў адведаць мяне. Хоць мы ніколі не былі блізкімі такімі сябрамі, але ён палічыў для сябе патрэбным прыехаць, пацікавіцца маім здароўем. Гэта мяне вельмі кранула. Вельмі шкада, што гэтак рана пайшоў такі Чалавек — зь вялікай літары, я б сказаў».

Да сярэдзіны 1990-х гадоў Барыс Звозскаў актыўна займаўся партыйным будаўніцтвам у АГП. Зь ягоным імем зьвязваюць зьяўленьне разгалінаванай партыйнай структуры. Менавіта тады партыя ўзмацнілася, яе прадстаўнікі прайшлі ў парлямэнт, дзе была створаная асобнай фракцыя «Грамадзянскае дзеяньне». З канца 1996 году Барыс Звозскаў паступова зьмяншае сваю партыйную актыўнасьць і пераходзіць у праваабарончую галіну. Тагачасны сустаршыня АГП Аляксандар Дабравольскі кажа, што пэўна ведае, чым тлумачыцца гэты паварот у лёсе калегі і сябра:

«Магу сказаць, што яго падштурхнула. Гэта быў 1996 год, пасьля рэфэрэндуму, калі стала зразумела, што ўлада абсалютна не паважае закон. А перад гэтым мы ў фракцыі якраз думалі пра тое, што трэба стварыць арганізацыю, якая б займалася заканадаўчымі ініцыятывамі. І вось Барыс потым стаў адным са стваральнікаў такой арганізацыі — „Прававая ініцыятыва“. А тады, пасьля рэфэрэндуму, у нас быў шок. Бо выявілася, што ня толькі ўлада не паважае закон, але і людзі закон ня цэняць. І стала зразумела, што трэба мяняць прававую культуру. Але яшчэ больш паўплывала на яго тое, што пачаліся рэпрэсіі супроць тых, хто пачаў пратэставаць, і Барыс сканцэнтраваўся на дапамозе гэтым людзям. Барыс займаўся і абаронай людзей у судах, і распрацоўкай мэтадычных матэрыялаў, прыкладам, як сябе паводзіць пры затрыманьні. Заняўся самай актуальнай працай. Ён, безумоўна, удзельнічаў у шмат якіх акцыях, хоць я ня ведаю, арыштоўвалі яго ці не, бо ўсё ж ён быў праваабаронца. Але ведаю дакладна, што калі кагосьці арыштоўвалі, то Барыс быў там».

спэцыялізаванай сьнідаўскай камэры. Да таго ж гэты чалавек назваўся імем зьняволенага, якога Мікола ведаў. Гэты падсаджаны чалавек рэзаў сабе вены і заліў усё крывёю. Я так разумею, Міколу паспрабавалі зрабіць вінаватым у гэтым і перавялі ў карцэр.

Інфармацыя пра тое, што Мікола схільны да суіцыду, мяне вельмі моцна напружыла. Я ўспомніла, што гэта ня першы раз. Яшчэ ў студзені кіраўніцтва турмы нешта казала мне пра яго схільнасьць да суіцыду, але тады было вельмі на слыху тое, што спроба суіцыду была прадпрынятая Аўтуховічам, і я падумала, што начальнік проста нешта пераблытаў. І сказала яму: не, гэта ня наш выпадак. Але зараз гэта ўсплыло зноў. Значыць, гэта не было выпадковасьцю. І наколькі мне вядома, Мікалай напісаў заяву, што ён да суіцыду ня схільны, і любыя такога кшталту спробы будзе разглядаць як правакацыю. Мікола жыцьцярадасны чалавек. Таму я бачу ў гэтым пагрозу з боку адміністрацыі і спробу падрыхтаваць сабе алібі».

www.svaboda.org/content/article/24629408.html

## Вянок памяці: Барыс Звозскаў

17 чэрвеня пасьля цяжкай хваробы пайшоў з жыцьця вядомы праваабаронца, грамадзкі дзеяч Барыс Звозскаў. Яму было 63 гады.

Барыс Звозскаў ??На пачатку 1990-х гадоў Барыс Ігаравіч Звозскаў

стаяў ля вытокаў Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, якая пазьней стала базай для стварэньня цяперашняй Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Ганаровы старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч згадвае пра Барыса Звозскага як пра выдатнага партыйнага арганізатара:

«Ён быў адзін з самых актыўных сяброў і зрабіў свой унёсак у аб'яднаньне дзьвюх партыяў, Дэмакратычнай і Грамадзянскай. Ён заўсёды займаў актыўную грамадзянскую пазыцыю, вызначаўся працавітасьцю, настойлівасьцю. Быў незаменным арганізатарам, бо меў дзеля гэтага ўсе неабходныя якасьці: выключную працавітасьць, дакладнасьць, сумленьне. Паступова ён адышоў ад партыйнай дзейнасьці, больш заняўся абаронай правоў чалавека. Я добра ведаў яго, ягоную жонку і сына. Добрыя людзі, што тут сказаць».

Барыс Звозскаў нарадзіўся ў 1949 годзе ў Белагорску (Расея), скончыў Ленінградзкі электратэхнічны інстытут. Да 1987 году працаваў інжынэрам электроннай тэхнікі ў арганізацыі «Каскад» Міністэрства сярэдняга машынабудаваньня СССР, затым — у канцэрне «Планар». У





## Работніцам "Дываноў Брэста" прапануюць збіраць камяні, перабіраць металалом

Так на камбінаце змагаюцца з "няпоўнай занятасцю" работнікаў.

На гэтым праблемным прадпрыемстве рабочыя не працуюць з красавіка, кажа работніца камбіната Алена Пятроўна. Днямі іх выправілі ў адпачынак. Кожнаму далі частку адпускных — 800 тысяч рублёў. А таксама прапанавалі падпрацоўку ў сельгаспрадпрыемствах і арганізацыях.



на № ______ от ______

ОАО „Ковры Бреста"

В целях недопущения ухудшения ситуации с вынужденной неполной занятостью в отдельных организациях города предусмотрена реализация дополнительных мер (организационного, информационного характера), способствующих обеспечению занятости работников организаций, работающих в режиме неполной занятости.

В этой связи рекомендуем довести до сведения работающих следующую информацию, разместив ее на информационных стендах на проходных:

**Вниманию работников предприятия!**
**Управление по труду, занятости и социальной защите Брестского горисполкома (далее – Управление) информирует:**

***Если Вы желаете получить дополнительный заработок***

Вы можете принять участие в сезонных и временных работах, в том числе в работах в сельскохозяйственных предприятиях области (прополка, уборка овощей). Доставка на сельскохозяйственные работы автобусом, который отправляется от здания Управления, в 8.00 часов ежедневно, кроме субботы, воскресенья. Расчет за выполненную работу производится в конце недели.

За более подробной информацией обращайтесь в кабинет № 2, телефоны 28 14 02, 28 19 97.

Алена Пятроўна: "Абяцалі нармальную працу — ніякіх збораў камення. Калі каму спадабаецца, можна застацца. І вось прыклад: "Збор камення. Сартаванне металалому". Гэта нармальная работа? Напэўна, думаюць, калі мы сядзім за 300 тысяч у месяц, і людзям трэба сплачваць крэдыты за кватэры, дык пойдуць. Перабіраць металалом — колькі яны

казалі? 30 тысяч у дзень. Ад восьмай ранку да сёмай вечара".

Па словах работніцы, абяцаныя за травень 300 тысяч рублёў яшчэ не далі. Начальства паведаміла работнікам, што працы можа не быць і праз месяц, бо няма сыравіны, а на яе закуп не далі крэдыт.

Дарэчы, каля ўваходу на прадпрыемства — аб'явы-засцярогі ад рабскай працы за мяжой.

http://euroradio.fm/report/rabotnitsam-dyvanow-bresta-prapanuyuts-zbirats-kamyani-i-perabirats-metalalo-109598

## Звольненыя з «Граніту»: пошукі працы і працяг змаганьня

Актывіст суполкі Беларускага незалежнага прафсаюзу на «Граніце» Генадзь Паўлоўскі быў звольнены пасьля накладзеных дысцыплінарных спагнаньняў. Паплечнікі Паўлоўскага па прафсаюзе кажуць, што спагнаньні гэтыя сфальшаваныя, бо на працягу гадоў той адзначаўся сумленнай працай на прадпрыемстве.

Генадзь Паўлоўскі распавёў «Свабодзе», што цяпер ён працуе кіроўцам фуры ў кампаніі па перавозцы грузаў у Расею і Эўропу. Кажа, што зарабляе нават больш чым на «Граніце»:

Генадзь Паўлоўскі

«Першы рэйс у мяне быў у якасьці стажора. Са мной заключаны кантракт. Я ў першы рэйс выехаў як стажор, каб зразумець спэцыфіку працы. Праца таксама ня зь лёгкіх, але заробак годны».

Генадзь Паўлоўскі кажа, што нягледзячы на тое, што працу ўжо знайшоў, ён будзе судзіцца з «Гранітам» з-за свайго звальненьня:

«Працягваць, канешне, буду, таму што трэба дабівацца справядлівасьці і каб яна перамагла».

А вось Мікалай Карышаў, намесьнік кіраўніка суполкі незалежнага прафсаюзу, звольнены з «Граніту», кажа, што працу пакуль не шукае. Цяпер ён абскарджвае звальненьне:

Мікалай Карышаў

«Пакуль я нікуды не плянаваў, думаю прайсьці ўсе суды. Учора быў суд у мяне па абскарджаньні дысцыплінарных спагнаньняў. Потым будзе суд па аднаўленьні на працы. І вось калі суд мяне не апраўдае і не адновіць на працы, тады пайду ў цэнтар занятасьці, няхай надалей накіроўваюць на „Граніт“. Зараз жа вакансіяў на „Граніце“ больш чым дастаткова».





грамадзянскай справе. Суд першай і другой істанцыі горада Берасця не задаволіў скаргу на рашэнне берасцейскага гарадскога выканаўчага камітэту аб забароне на правядзенне пікетавання.

Уладзімір Вялічкін не мае веры ў тое, што старшыня суда задаволіць скаргу і прызнае парушэнне ягоных правоў, але, на яго думку, такі дзеянні – гэта крок на шляху да Камітэта па правах чалавека ААН. Праваабаронца лічыць, што як рашэнне мясцовых уладаў аб забароне мерапрыемства ў падтрымку Алеся Бяляцкга, так і рашэнне судоў дзьвух інстанцый парушае артыкул за нумарам 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Міжнародны пакт аб палітычных і грамадзянскіх правах, падпісаных вышэйуказанай краінай. Гэта, на яго думку, не першы выпадак парушэння права на мірныя сходы ў Беларусі.

## Бярозаўскія актывісты наведалі Паўла Севярынца

Бярозаўскія грамадскія актывісты рэгулярна наведваюць палітвязня Паўла Севярынца, які адбывае трохгадовы тэрмін "хіміі" ў вёсцы Куплін Пружанскага раёну, падтрымліваюць маральна, прывозяць прадукты. Асабліва апекуецца пра вязня сябра Партыі БНФ з Малеча Анатоль Сахаруша, які ездзіць да Паўла 6-7 разоў на месяц.

Па словах Сахарушы, першы раз ён сустрэў Паўла 15 гадоў таму, паслухаў ягоны выступ, і стаў сімпатызаваць маладому палітыку. Праз 15 гадоў адносіны да Паўла не змяніліся. Севярынец застаўся такі ветлівы, спакойны, крышталёва чысты, як і 15 год таму, кажа Анатоль Сахаруша. Сталы чалавек вельмі шкадуе Севярынца, які адбывае зняволенне за свае палітычныя погляды ўжо другі раз.

spring96.org/be/news/52906

## Міколу Статкевіча рыхтуюць да суіцыду?

Былы кандыдат у прэзыдэнты палітвязень Мікалай Статкевіч адбывае пакараньне ў Магілёўскай крытай турме № 4. Паводле жонкі Статкевіча Марыны Адамовіч, днямі ён трапіў у турэмны карцэр. У праграме «Вынікі дня» спадарыня Адамовіч распавяла пра турэмныя правакацыі супраць яе мужа.

Марына Адамовіч: «У лісьце Мікола пацьвердзіў пра тую правакацыю, што была зьдзейсьненая супраць яго ў Магілёўскай турме – так званую падсадку чалавека, які доўгі час знаходзіўся ў

месца пікета знаходзіцца менш чым у 50-ці метрах ад Дома культуры. А ў Доме культуры знаходзяцца падраздзяленні райвыканкама - аддзел культуры і ЗАГС. Але праваабаронца лічыць, што адзіночны пікет у будні дзень не замінаў бы пешаходам і не змог стварыць небяспеку для аддзела культуры і ЗАГСу.

spring96.org/be/news/53295

## «Спадчына» заклікае адмаўляцца ад працы ў выбарчых камісіях

Берасьцейская дэмакратычная кааліцыя «Спадчына» прыняла зварот да «будучых сябраў выбарчых камісій». У звароце яго ініцыятары просяць будучых сябраў камісій задумацца, чаму менавіта іх «прызначылі ў выбарчую камісію»:

«Напэўна, вы — чалавек ціхі і пакладзісты, магчыма, наіўны або залежны ад пасады, кантракту, звычкі. Вас лёгка падмануць або падначаліць, схіляючы да фальсыфікацыяў. Вам давядзецца маніпуляваць з колькасьцю выбарцаў, укідаць бюлетэні або не заўважаць укіданьня, падпісваць пустыя пратаколы і маўчаць пра сваё злачынства».

У звароце кааліцыянты пішуць, што «байкот — гэта шанец аднавіць законнасьць, гэта цьвёрды адказ на гвалт, амаральнасьць, убогасьць, хамства, пражэрлівасьць сёньняшняй улады. Байкот — гэта зразумелае „бывай“ партыям і „рухам“, якія насуперак інтарэсам народу год у год падтрымліваюць уладу, удзельнічаючы ў выбарчым фарсе».

Берасьцейская дэмакратычная кааліцыя «Спадчына» была ўтвораная пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году. У яе ўваходзяць абласныя арганізацыі БХД, БСДП (Народная Грамада), «Эўрапейскай Беларусі», «Маладой Беларусі», «Беларускага руху».

Кааліцыя выступае за байкот парлямэнцкіх выбараў, якія адбудуцца 23 верасьня.

www.svaboda.org/content/article/24625036.html

## За Бяляцкага і права на мірныя сходы да канца!

Берасцейскі праваабаронца Ўладзімір Вялічкін працягвае змаганні за права на правядзенне пікетавання ў падтрымку лідара праваабарончага цэнтру “Вясна” Алеся Бяляцкага.

З гэтаю мэтаю ён накіраваў зварот да старшыні берасцейскага абласнога суда з просьбай апратэставаць судовыя пастановы па яго





Гэта пацьвярджае і кіраўнік суполкі незалежнага прафсаюзу на «Граніце» Алег Стахаевіч. Ён кажа, што ў мясцовым цэнтры занятасьці каля 20 вакансіяў на пасаду, зь якой звольнены Мікалай Карышаў.



Брэсцкі абласны суд адмовіўся аднавіць на працы актывіста з Граніта

Алег Стахаевіч распавёў, што пасьля звальненьня з пасады кіроўцы «БелАЗу» з «Граніту», ён працягвае абараняць правы працоўных у незалежным прафсаюзе. З гэтым ён і зьвязвае сваю будучыню:

Алег Стахаевіч

«Адчуваю падтрымку, салідарнасьць з боку ўсяго незалежнага прафсаюзнага руху Рэспублікі Беларусь. Жыву на якія сродкі? Пакуль за кошт салідарнай падтрымкі жыву ад незалежнага прафсаюзнага руху і спачуваючых людзей. Што тычыцца жыцьця, то яно памянялася кардынальна: новыя размовы, новыя людзі, вельмі цудоўныя людзі... Накірунак выбраў, у прынцыпе, прафсаюзны, далей буду рухацца, разьвівацца. Наведваю зараз розныя партнэрскія праграмы па навучаньні.»

Напрыканцы 2011 году некалькі соцень рабочых прадпрыемства

«Граніт» у Мікашэвічах абвясьцілі аб выхадзе з афіцыйнага прафсаюзу і стварэньні суполкі Беларускага незалежнага прафсаюзу. Рабочыя адразу зьведалі ціск з боку адміністрацыі. Некалькі актывістаў новаўтворанай суполкі нават былі звольненыя і цяпер судзяцца з прадпрыемствам.

www.svaboda.org/content/article/24609021.html

## Брэсцкія актывісты не задаволены адказам Мінпрыроды

Зварот брэстаўчан у Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя быў выкліканы беспаспяховымі спробамі дамагчыся ад мясцовых уладаў вырашэння праблемы праблемы непрыемных пахаў, што адчуваюць жыхары раёнаў паблізу ракі Мухавец.

Пад калектыўным зваротам на адрас гарвыканкама і аблвыканкама падпісаліся больш за тысячу грамадзянаў.

“Мясцовыя ўлады толькі паведамілі, што такі пах з’яўляецца вынікам рэканструкцыі ачышчальных збудаванняў у зоне ракі Заходні Буг і што тэрмін завяршэння гэтай рэканструкцыі запланаваны на 2016 год, - распавяла адна з ініцыятараў звароту Ганна Канюс. – Таму ў сваёй скарзе ў Мінпрыроды мы прасілі прыняць меры, якія абавязваюць улады Брэста неадкладна актывізаваць дзейнасць па паляпшэнні санітарна-гігіенічнай абстаноўкі ў горадзе”.

Па словах актывісткі, у міністэрстве абмежаваліся паведамленнем пра тое, што пытанне захавання правілаў карыстання сістэмамі камунальнага водазабеспячэння і водаадвядзення (у тым ліку, умоваў прыёму вытворчых сцёкавых водаў у гарадскую каналізацыю) знаходзіцца ў кампетэнцыі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Адначасова Мінпрыроды зазначае, што ў адрас Міністэрства аховы здароўя накіраваны прапановы аб правядзенні ацэнкі якасці атмасфернага паветра на адпаведнасць санітарна-гігіенічным нарматывам ў жылых забудовах.

“Па сутнасці, Мінпрыроды заяўляе, што яно тут ні пры чым, - кажа Ганна Канюс. – У адказе нават не гаворыцца, дзе мы можам яго абскардзіць. Але самае галоўнае: мы так і не даведаліся, што можна зрабіць, каб пазбавіць жыхароў Брэста ад гэтых смуродных пахаў!”

Актывістка таксама нагадала, што мясцовыя ўлады ў мінулым годзе забаранілі тры пікеты, заяўнікі якіх хацелі прыцягнуць увагу да праблемы








Будаўніцтва аптэкі на дваровай тэрыторыі ў Брэсце

таго, жыхары вуліцы Суворава заявілі пра намер усімі дасяжнымі сродкамі перашкаджаць узвядзенню двухпавярховага будынка на аварыйна небяспечным перакрыжаванні і ў непасрэднай блізкасці з жылымі дамамі. Гарадскія ўлады пакуль трымаюць паўзу.

spring96.org/be/news/53667

## Праваабаронца будзе судзіцца з маларыцкімі ўладамі

Юрыст-праваабаронца Уладзімір Малей падаў у суд Маларыцкага раёна скаргу на адмову райвыканкама ў правядзенні пікету “За свабодныя і сумленныя выбары”.

Малей просіць прызнаць адмову неправамернай, паколькі райвыканкам парушыў яго правы на мірны сход і свабоднае выказванне свайго меркавання. Праваабаронца даводзіць, што ў дэмакратычнай краіне не можа быць забароны на мірны сход з ярка выражанымі мэтамі, а Беларусь паводле Канстытуцыі лічыцца дэмакратычнай дзяржавай.

Нагадаем, Маларыцкі райвыканкам адмовіў Уладзіміру Малею ў правядзенні пікета, аргументуючы сваю адмову тым, што заяўленае

чыноўнікі, зьмяняць рашэньне ня будуць. Ігару Маслоўскаму паведамілі толькі, што ў пункт 6 гэтага рашэньня ўносіліся зьмены 9 студзеня 2012 года аб тым, што паслугі мэдыкаў, камунальнікаў і міліцыянтаў трэба аплачваць пасьля масавага мерапрыемства, а не напярэдадні.

Рашэньне № 1210 Берасьцейскага аблвыканкаму рэглямэнтуе парадак правядзеньня масавых мерапрыемстваў. Паводле яго заяўнікі пікетаў, мітынгаў, ці іншых акцыяў павінны прыкладаць да заявы дамовы з міліцыяй, ЖКГ і мэдыкамі на абслугоўваньне акцыі.

Берасьцейскія дэмакраты тлумачаць, што ад часу прыняцьця гэтага рашэньня ў 2011 годзе ўсе заяўкі на масавыя мерапрыемствы не задавальняліся. Чыноўнікі звычайна спасылаліся ў адмовах згаданым рашэньнем аблвыканкаму.

Ігар Маслоўскі кажа, што нягледзячы на адмоўны вынік звароту ў аблвыканкам, дэмакраты і праваабаронцы будуць працягваць дабівацца права на правядзеньне масавых мерапрыемстваў.

З гэтай мэтай берасьцейскія актывісты будуць працягваць кампанію «Стоп 1210, або Права на мірныя сходы».

www.svaboda.org/content/article/24628066.html

## Жыхары Брэста выступаюць за роспуск гарадскога савета дэпутатаў

Увечары 27 чэрвеня падчас сходу па пытанні будаўніцтва аптэкі ў мікрараёне "Кавалёва" яго жыхары прагаласавалі за роспуск гарадскога савета дэпутатаў. Бо мясцовыя ўлады, без уліку меркаванняў людзей, далі дазвол на будаўніцтва аптэкі на дваровай тэрыторыі – пры тым, што побач ужо знаходзяцца тры аптэкі.

Жыхары дамоў № № 77 і 79 па вуліцы Суворава, побач з якімі плануецца будоўля, распавялі, што напярэдадні яны пісьмова накіравалі зварот дэпутатам гарсавета з просьбай умяшацца ў сітуацыю, аднак ніякай рэакцыі не было.

Таму на сходзе было вырашана не толькі пачаць збор подпісаў за тое, каб прыпыніць будаўніцтва аптэкі, але і пастаўлена на галасаванне пытанне аб роспуску гарадскога савета дэпутатаў, паколькі "народныя выбраннікі" не здольныя абараняць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў перад органамі выканаўчай улады.

Пратакол сходу разам з подпісамі будзе накіраваны ў Брэсцкія аблвыканкам і гарвыканкам, а таксама ў гарадскі савет дэпутатаў. Акрамя





смуроду ў Брэсце і выказаць пратэст у сувязі з бяздзейнасцю чыноўнікаў у гэтым пытанні.

spring96.org/be/news/53128

## У Брэсце змагаюцца за захванне гістарычнай спадчыны

Каардынатар Руху «За Свабоду» ў Брэсце Дзяніс Турчаняк

Мясцовы каардынатар Руху "За Свабоду" Дзяніс Турчаняк звярнуўся да дэпутатаў Брэсцкага абласнога савета з просьбай адмяніць рашэнне аблвыканкама аб будаўніцтве адміністрацыйна-гасцінічнага комплексу на месцы гістарычных будынкаў.

Размова ідзе пра рашэнне ад 13 чэрвеня мінулага года, на падставе якога была заключаная інвестыцыйная дамова з фірмай "МФБ Дэвелапмент" аб рэалізацыі інвестыцыйнага праекта "Адміністрацыйна-гасцінічны комплекс па вуліцы Савецкай у г.Брэсце". Праект прадугледжвае знос будынкаў №43 і №45 на гэтай вуліцы, якія маюць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці Рэспублікі Беларусь.

На думку Турчаняка, згаданае рашэнне было прынята са шматлікімі парушэннямі. У прыватнасці, грамадзяне былі пазбаўлены права на выказванне свайго меркавання, не праводзілася грамадскае абмеркаванне праекту, тым больш, што справа тычыцца рэканструкцыі гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

Жыхары дамоў №43 і №45 па вуліцы Савецкай у Брэсце былі выселеныя яшчэ некалькі гадоў таму, але працягваюць змагацца за сваю ўласнасць. Акрамя таго, супраць будаўніцтва гатэлю выступаюць жыхары суседніх дамоў, якія накіравалі калектыўны зварот да міністраў культуры, ЖКГ, архітэктуры і будаўніцтва. У сваім звароце яны выказалі нязгоду з будаўніцтвам у такім выглядзе адміністрацыйна-гасцінічнага комплексу ў гістарычнай частцы Брэста.

spring96.org/be/news/53193

## Жыхары брэсцкага "шматпавярховіка" будуць судзіцца з ЖКГ

Жыхары дзесяціпавярховага дома №94 на праспекце Машэрава ў абласным цэнтры падалі ў суд на мясцовае упраўленне жыллёва-камунальнай гаспадаркі з мэтай дамагчыся, каб камунальныя службы і гарадскія ўлады ўрэшце выканалі свае абяцанні наконт капітальнага

рамонту.

Перапіска жыхароў дому, які быў пабудаваны ў 1970-м годзе, з мясцовым ЖРЭУ, гарвыканкамам, аблвыканкамам і Міністэрствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі, цягнецца ўжо шосты год. Аднак, акрамя касметычных працаў па ўмацаванні даху, нічога іншага ў доме, дзе павышаная вільготнасць у кватэрах была афіцыйна зафіксаваная нават у летні перыяд, зроблена не было.

Улады паабяцалі правесці цеплавую рэабілітацыю “шматпавярховіка”, але дзеля гэтага патрэбна ўключыць будынак у план капітальнага рамонту. Высветлілался, што адпаведныя спісы камунальныя службы складаюць за два гады наперад, аднак ні ў 2008-м, ні ў 2010-м дом на праспекце Машэрава ў такія спісы не трапіў. Урэшце, была падрыхтавана праектна-сметная дакументацыя на капітальны рамонт і дом быў уключаны ў адпаведную праграму на 2011 год. Аднак амаль паўгода спатрэбілася, каб спецыялісты ЖРЭУ зрабілі агляд дому і падрыхтавалі смету запланаваных работ, а пазей ад намесніка старшыні Брэсцкага аблвыканкама Віктара Сакоўскага прыйшоў адказ, што рамонт гэтага дому запланаваны на бягучы год. Яшчэ праз месяц той жа Сакоўскі ў лісце паведаміў жыхарам, што “вызначэнне канкрэтнага тэрміну пастаноўкі дома №94 па праспекце Машэрава на капітальны рамонт з’яўляецца кампетэнцыяй гарвыканкама ў адпаведнасці з аб’ёмамі фінансавання”.

У выніку тэрміны зноў змяніліся - капітальны рамонт быў перанесены на 2014 год. Жыхары дома, адчуваючы безвыніковасць сваіх зваротаў (за шэсць гадоў яны накіравалі ў розныя інстанцыі 15 лістоў і атрымалі на іх 20 адказаў), падалі калектыўную скаргу ў суд Маскоўскага раёна Брэста. У якасці адказчыка у гэтай скарзе пазначана жыллёвае рамонтна-эксплуатацыйнае ўпраўленне горада.

spring96.org/be/news/53275

## Берасьцейцы не пусцілі рабочых на будоўлю

Жыхарам мікрараёна Кавалёва ўдалося дамагчыся спынення будаўніцтва па вуліцы Суворава. Пасля некалькіх гадзін пратэсту на месца прыехаў дырэктар таварыства з абмежаванай адказнасцю Рыгор Кусік .Ён правёў перамовы ад імя забудоўшчыка і загадаў будаўнікам спыніць работы да далейшых распараджэнняў гарвыканкама. Удзельнікі акцыі задаволены вынікамі першага дня пратэсту:





- Мы сёння змаглі дабіцца двух станоўчых фактараў. Па-першае гэта тое, што мы змаглі пагаварыць з прадстаўніком адміністрацыі. Па-другое, на сённяшні дзень будоўля часова спынена. Нечага мы сёння ўжо дабіліся, гэта пачатак і ўжо не благі.

Жыхары некалькіх дамоў па вуліцы Суворава пратэстуюць супраць будаўніцтва аптэкі. Яны не хочуць мяняць зялёны газон з дрэвамі на чацвёртую па ліку аптэку. У пачатку рабочага дня незадаволеныя людзі выйшлі і не пусцілі будаўнікоў на аб’ект.

* * *

Жыхары некалькіх дамоў па вуліцы Суворава сабраліся перад уваходам на будаўнічую пляцоўку на той жа вуліцы. Такім чынам яны выказалі пратэст супраць будаўніцтва аптэкі. Людзей абурае, што для новага аб’екта горад выдзяліў невялікі газон, у той час як непадалёк пустуюць большыя тэрыторыі. “У нас ужо ёсць тры аптэкі. Навошта нам чацвёртая?”,– абураюцца мясцовыя жыхары.

- Жыхары дамоў нумар 75-77-79-81, мы пратэстуем супраць будоўлі, якая разгортваецца літаральна побач са сцяной дома, за некалькі метраў ад нашых дамоў. Мы не ўпэўненыя, што тут выконваюцца ўсе экалагічныя і санітарныя нормы і абураныя гэтым. Да гэтага часу ўлады нас не пачулі.

Будаўнікі выклікалі міліцыю, каб разагнаць акцыю, але затрыманых не было. Людзі працягваюць стаяць і не прапускаюць будаўнікоў на аб’ект.

racyja.eu/index.php?id=105&zoom=448

## Стоп 1210, або Права на мірныя сходы

Берасьцейскі аблвыканкам адмовіў зьмяніць сваё рашэньне № 1210 аб масавых мерапрыемствах.

На падставе гэтага рашэньня забараняецца большасьць акцый, якія плянуюць апазыцыянэры Берасьця.

Сябра Беларускага Хэльсынскага камітэту на Берасьцейшчыне Ігар Маслоўскі накіроўваў у аблвыканкам заяву з просьбай зьмяніць некаторыя артыкулы рашэньня аб масавых мерапрыемствах. Пад гэтым зваротам Маслоўскага было сабрана каля 200 подпісаў.

У адказе з аблвыканкаму спадару Маслоўскаму паведамілі, што рашэньне 1210 адпавядае Канстытуцыі, дзеючым нарматыўным прававым нормам і міжнародным дамовам Беларусі. Таму, адказалі